● Хочаце — верце...

## У кроплі крыві — як у кроплі вады

"Калі вы не ведаеце, якая ў вас група крыві, значыць вы ўвогуле сябе не ведаеце", — лічаць японскія вучоныя.

А парыжскі псіхолаг Жан Батыст Дэлякур сцвярджае, што група крыві праецыруецца на рысы характару, і людзі з адной групай валодаюць падобным тэмпераментам. А які тэмперамент, такі і характар.

### Група крыві 0 (I)

Гэта людзі вечнага руху — так можна было б іх назваць. Энергічныя, валодаюць прабіўной сілай, валявыя, лёгка наладжваюць кантакты. У іх невычэрпная энергія, яны нястомна працуюць.

Невыпадкова жанчыны і мужчыны, якім пашчасціла шмат чаго дабіцца ў свеце бізнесу, маюць, як правіла, першую групу крыві.

### Група крыві А (II)

Гэта людзі добрасумленныя, старанныя. Упэўнена ідуць наперад у сваёй прафесійнай рабоце, усё астатняе ацэньваюць як менш важнае. Калі за што бяруцца, імкнуцца не расчараваць. Іх "так" — гэта надзейнасць і давер. Такія ж яны і ў асабістых кантактах: застаюцца адданыя людзям, з якімі пасябруюць.

### Група крыві В (III)

Гэта людзі ўражлівыя, вельмі далікатныя, з вялікімі здольнасцямі. У рабоце як да сябе, так і да іншых прад'яўляюць вельмі высокія патрабаванні. Яны спакойныя, але пад гэтым спакоем часта хаваецца чулае сэрца. Іх пачуцці могуць, аднак, выбухнуць вельмі бурна, асабліва калі гаворка ідзе пра каханне.

Жанчыны вельмі раўнівыя, значна мацней, чым мужчыны з гэтай жа групай крыві.

### Група крыві АВ (IV)

Гэта асобы, ахопленыя пачуццямі. Моцныя пачуцці літаральна раздзіраюць іх, што нярэдка бывае прычынай унутраных разладаў, нерашучасці і сумненняў. Усе канфлікты яны перажываюць, нікому не спавядаючыся.

Аднак у каханні, сяброўстве і шлюбе гэтыя людзі блізкія да ідэалу.

Падрыхтавала **Ліка ВАЯВОДСКАЯ.**

● Беларускі гумар



### Выгадная здзелка

— Паслухай, цыган, ты ж мне прадаў сляпую кабылу.

— Табе ж і выгадней, — адказвае цыган, — будзе есці салому, а падумае, што сена.

Як леў

— Як я выглядаю? — спытаў у прыяцеля п'яны, трымаючыся зухавата, рукі ў бокі.

### — Як леў!

— А ці ты бачыў льва?

— Чуў, як ён хрукае ў хляве.

— Дык гэта ж свіння!

— Вось так ты і выглядзеш!

### У курсе справы

**Бацька:** Спадзяюся, Вы ўсведамляеце, што набываеце, узяўшы маю дачку ў жонкі?

**Зяць:** Дакладна не ведаю, кажуць, быццам пяць мільёнаў рублёў.

● Сам сабе доктар

## Малако — харч багоў, лекі для хворых

**Ужо больш паўтысячы гадоў малако ўжываюць для прафілактыкі і лячэння рознай немачы, у тым ліку захворванняў сардэчна-сасудзістай і нервовай сістэм, страўнікава-кішэчнага тракту, пры лёгачных хваробах і г.д.**

**Вось некалькі рэцэптаў ужывання каровінага малака ў лячэбных мэтах.**

**КАШАЛЬ.** Давесці да кіпення кубак малака, апусціць у яго ачышчаную цыбуліну, кіпяціць 10 хвілін. Малочны адвар цыбулі піць гарачым маленькімі глыткамі на працягу ўсяго дня.

Пры начным кашлі ў дзяцей падагрэць шклянку малака, дабавіць 1 сырое курынае яйка і 1 чайную лыжку мёду і добра перамяшаць. Сумесь раздзяліць на 2 роўныя часткі. Адну даць дзіцяці перад сном, а другую паставіць у халадзільнік. Калі ўначы будзе прыступ кашлю, падагрэць другую частку і даць выпіць. А калі не будзе кашлю — раніцай даць выпіць (зноў жа падагрэўшы).

**НАСМАРК.** Закапваць у нос часночны або цыбульны сок у сумесі з малаком. Суадносіны падбіраюцца індывідуальна ў залежнасці ад адчувальнасці поласці носа, каб не смылела.

**ХВАРОБЫ НЫРАК.** Штодзённа выпіваць нашча шклянку сумесі малака са свежапрыгатаваным сокам морквы ў суадносінах 1:1. Каб узмацніць лекавае ўздзеянне, снеданне павінна быць не раней чым праз гадзіну-паўтары пасля прыёму сумесі.

**ЯЗВА СТРАЎНІКА І ДВАНАЦЦАЦІПЕРСНАЙ КІШКІ, ГАСТРЫТЫ, МОЧАКАМЕННАЯ ХВАРОБА З ПАВЫШАНАЙ КІСЛОТНАСЦЮ.** Рэкамендуецца піць свежае малако без абмежавання, бо яно нейтралізуе шчолач. Аднак у выпадку мочакаменнай хваробы са шчолачнай рэакцыяй малако піць забараняецца.

**ЧАСТЫЯ ПРЫСТУПЫ ІКАЎКІ Ў ДЗЯЦЕЙ.** Даваць ім піць невялікімі глыткамі цёплае малако.

**ДЗІЦЯЧАЕ АТРУЧЭННЕ.** Аддзяліць яечны бялок, узбіць яго ў пену і злучыць са 100-120 мл малака і паловай чайнай лыжкі цукру. Даць дзіцяці выпіць усё адразу.

**ПСАРЫЯЗ.** Наліць у каструлю малака, давесці да кіпення, трымаць на невялікім агні 3-5 хвілін. Затым выліць малако ў другую пасудзіну. Белы налёт, які застаўся на дне і сценках каструлі, сабраць і змазваць ім хворыя месцы.

**РАСЦЯЖЭННЕ СУЖЫЛЛЯЎ.** Прыкладаць кампрэсы з гарачага малака.

**МАСТАПАТЫЯ.** Зварыць 100 г насення кропу ў паўлітры малака. Пасудзіну зняць з агню, укутаць і настойваць 2 гадзіны. Затым малако працадзіць, раздзяліць на тры часткі і прымаць па адной частцы 3 разы на дзень за паўгадзіны да яды.

Курс лячэння —тры тыдні. Пасля тыднёвага перапынку яго можна паўтарыць яшчэ раз.

**БЯССОННІЦА.** Выпіць перад сном шклянку цёплага малака з мёдам.

**НЕЙРАДЭРМІТ.** Для памяншэння сухасці скуры ў паўлітра малака ўліць 100 г алею (пажадана аліўкавага). Перамешваць, пакуль не атрымаецца аднародная маса, эмульсію выліць у загадзя падрыхтаваную цёплую ванну. Прымаць яе не болей як 15 хвілін раз у тыдзень.

**ПАТРЭСКАНАЯ СКУРА РУК.** Увечары трэба рэгулярна рабіць малочныя ванначкі.



**Калгасныя ветэраны з вёскі Вузкае Крычаўскага раёна Чыгілавы вырасцілі пяцярых дзяцей. Зараз на пенсіі, але не адпачываюць на канапе, як гарадчане, а вядуць сялянскую падсобную гаспадарку, якая значна павышае іх дабрабыт.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

● Гаючая флора

## Ажына (жавіна)

Дактары старажытнай Грэцыі і Рыма шырока прымянялі ажыну для лячэння хвароб скуры. Пасля працяглай хваробы, цяжкой аперацыі, карысным аказваецца сок ажыны і самі ягады. А Дзіаскарыд лячыў "скуру ў ваяроў, пасля іх сувязяў з нявольніцамі". Ці не старажытныя гэта лекі для лячэння сіфілісу? У Паўночнай Амерыцы і ў Англіі культывуюць і ўжываюць ажыну як самыя багатыя, так і самыя бедныя. Яна адна з самых пяшчотных любімых ягад.

У Польшчы лічыцца, што гэта ягада дае сілу маладосці. У Заходняй Украіне і на Беларусі рыхтуюць гаючую гарбату па рэцэпту:

*Змешваюць маладое лісце жавіны, дзікарослай маліны і суніц лясных у суадносінах 4:2:1.* Лісця пакідаюць на нейкі час, каб правялі, затым іх памяць, апырскаць вадой, загарнуць у чыстае палатно і вытрымаць у цёмным месцы двое сутак. За гэты час лісці перабражаюць, ферментуюцца, набудуць прыемны пах. Іх трэба хутка высушыць. Заварваць, як звычайную гарбату.

Захоўваць у драўлянай ўпакоўцы (лепш на зачыненым балконе). Гарбата з лісцяў і ягад ажыны — адзін з лепшых сродкаў лячэння неўрозаў у час клімаксу. А крывацячэнні ў гэты перыяд пасняхова можна лячыць яе каранем.

**Рэцэпт:** 1 сталовую лыжку здробненага кораня заліць шклянкай кіпеню і настойваць 2 гадзіны. Піць па сталовай лыжцы ўвесь дзень, але не больш 2 шклянак.

Ажына неверагодна карысная пры захворваннях страўнікава-кішэчнага тракту, язвах страўніка і дванаццаціперснай кішкі, дзёснаў і скуры, таму што нармалізуе абмен рэчываў, гармаНальны і водна-солевы абмен. Настой з макушак галінак без лісцяў карысны для лячэння язвеннага каліту і язвы дванаццаціперснай кішкі і страўніка.

Свежае лісце — напар, прымочкі, адвар — рубцуюць старыя, якія дрэнна паддаюцца лячэнню, язвы на нагах, асабліва пры трамбафлебітах, варыкозным расшырэнні вен.

Адна з асноўных умоў пасняховага лячэння ажынай — збор менавіта маладога лісця. Высушаныя, яны павінны мець натуральны колер, без бурых плям.

● Куток гаспадыні

## Салат из сельди

Очищенную сельдь нарезать кусочками. Приготовить соус: для этого желток сваренного вкрутую яйца растереть с солью, горчицей и маслом, причем масло надо подливать небольшими порциями, чтобы соус получился густой. Потом прибавить уксус. Перед подачей на стол нарезанные продукты смешать с соусом и мелко нарезанным луком и зеленью петрушки или укропом. Салат поместить в салатник и украсить ломтиками свеклы, сельди и яичным белком.

*На одну некрупную сельдь — 2 шт. вареного картофеля, 1 яблоко, 1 соленый огурец, 1 головку лука, 1 вареную свеклу, 1-2 яйца, 3 ст. ложки растительного масла, 2 ст. ложки уксуса, 1 чайную ложку горчицы.*

## Салат из фасоли

Фасоль, предварительно замоченную, сварить, откинуть на сито и охладить. Одновременно отварить морковь и нарезать кубиками, а очищенный сельдерей тонко нашинковать соломкой; прибавить промытый, нарезанный зеленый салат и все это перемешать. Затем положить в салатник горчицу, соль, сахар, все это растереть, постепенно подливая растительное масло, а затем и уксус. Подготовленные продукты положить в салатник, перемешать, сделать из них горку и украсить ее листьями салата, морковью и, по желанию, ломтиками яблок.

*На 1 стакан фасоли — 2-3 морковки, 75 г сельдерея, 200 г салата, 2 ст. ложки растительного масла, горчица, уксус, сахар по вкусу.*

● Карысныя парады

## Выводзім плямы

Свежыя плямы ад фруктаў змываюцца цёплай вадою, старую пляму можна звесці растворам лімоннай кіслаты (2 г на шклянку вады). Толькі не выкарыстоўвайце мыла! Фруктовыя плямы ад яго толькі замацоўваюцца!

* * *

Каб звесці свежыя плямы крыві, прасцей за ўсё памыць запэцканы ўчастак тканіны ў чыстай халоднай вадзе, а затым злёгку цёплай, выкарыстоўваючы мыючыя сродкі з біядадаткамі.

* * *

Плямы ад гарбаты выдаляюць, прапітваючы запэцканы ўчастак ватным тампонам, змочаным у сумесі, што складаецца з двух чайных лыжак гліцэрыны і паўчайнай лыжкі нашатырнага спірту.

* * *

Плямы ад гарбаты на белым абрусе змачыце сокам лімона і тут жа спаласніце халоднай чыстай вадою.

● Клопаты гаспадароў

## Адказная пара

Зараз у агароднікаў і садоўнікаў адказная пара. Ужо ў таго-сяго ўзышла і цягнецца ўгару расада памідораў, перцу, іншых культур. Трэба іх дагледзець. У сакавіку працягваюць назапашваць арганічныя і мінеральныя ўгнаенні, падкормліваюць шматгадовую гародніну. У апошняй дэкадзе сакавіка закладваюць на яравізацыю ранню бульбу.

У гэтым месяцы ўжо прыкідваюць, дзе што будуць сёлета саджаць, сеяць. Хто не марыць вырасціць добры ўраджай капусты, памідораў, гуркоў, іншай гародніны? А значыць, калі яшчэ ляжыць снег, трэба рыхтаваць расаду. Рассадным спосабам можна вырошчваць практычна ўсе культуры. Першы месяц расаду можна трымаць на падваконніках, затым пікіраваць яе ў парнічках. А ў адкрыты грунт высаджваць, калі наступіць час для пэўнай культуры.

Нельга расаду круглыя суткі трымаць у цяпле, каб яна не выцягнулася ўгару. Днём аптымальная тэмпература 18-20 градусаў, ноччу — 8-10. Раз у 2-3 дні трэба палівацъ расаду вадой пакаёвай тэмпературы.

## Картофель стирает белье

В древности люди для мытья использовали некоторые сорта глины, дающие пену. Они же применялись и для чистки одежды. Крестьянка Мари Лемлер из земли Нижняя Саксония в ФРГ, несмотря на все разнообразие стиральных и чистящих средств, согласна с нашими предками: натуральный продукт всегда здоровее. Она использует для стирки белья... картофель.

Технология стирки по Лемлер элементарна: она варит несколько клубней картофеля до тех пор, пока он не начнет разваливаться, а затем трет им белье, как обычным мылом. В результате белье получается чистым и белоснежным. Мари утверждает, что одной средней величины картофелины ей хватает на стирку двух пар брюк мужа и пары своих фартуков.

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N 141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 24 гадзіны 14 сакавіка 2001 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 3751 ас. Аб'ём I друк. аркуш. Заказ № 11.

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**